# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 39 **(200)**, 18 — 24 КАСТРЫЧНІКА 1995 ГОДА. КОШТ 1500 РУБЛЁЎ




Тыднёвіку «Культура» зычу доўгіх гадоў жыцця і гарачай удзячнасці чытачоў, якіх, веру, будзе ўсё больш і больш.

Ніл Гілевіч

Кастрычнік, 1995.

# ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З КУЛЬТУРЫ

*Напэўна, няма патрэбы прадстаўляць чытачам "Культуры" Ніла ГІЛЕВІЧА — аднаго з найбольш вядомых сёння беларускіх паэтаў, старшыню парламенцкай Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны. Напярэдадні выхаду юбілейнага нумара газеты з ім сустрэўся наш карэспандэнт Юрась БАРЫСЕВІЧ. У парламенцкім кабінеце віравала жыццё. У гэты дзень не выйшла "Народная Воля", і яе галоўны рэдактар І. Сярэдзіч высвятляў па спецсувязі адносіны з чыноўнікамі вышэйшага рангу. Але нашай размове гэта, здаецца, не зашкодзіла.*

*(Заканчэнне на стар. 3)*



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# "РАТАВАЦЬ ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ БЕЛАРУСА..."

**З выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.І.Грыба на IV з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Паважаныя ўдзельнікі з'езду!

Як вам вядома, я большую частку свайго жыцця карыстаўся рускай мовай.

Але калі мяне абралі Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — вырашыў для сябе, што мова Старшыні Вярхоўнага Савета, як кіраўніка прадстаўнічай і заканадаўчай улады суверэннай краіны і як прыклад для іншых нашых дзяржаўных дзеячоў, павінна быць роднай беларускай мовай, на якой павінны размаўляць усе грамадзяне Беларусі — як гэта робіцца ў іншых краінах свету.

На жаль, гэтага пакуль не адбылося, але павінна адбыцца, можа і не вельмі хутка.

Скажу шчыра: мне вельмі прыемна быць сёння сярод вас! Быць сярод сумленных і праведных адраджэнцаў беларушчыны, сярод сапраўдных свяціл сучаснай беларускай нацыянальнай культуры. Такія падзеі, як ваш з'езд, такія сустрэчы пакідаюць след і памяць назаўсёды. І я ганаруся тым, што знаходжуся сёння разам з вамі, што вы мяне запрасілі.

Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўсяго некалькі гадоў. На вялікі жаль, мала, да крыўднага мала ў нас сёння такіх аб'яднанняў і суполак, як ваша, якія б сумленна і праведна, мужна і адкрыта спавядалі б свае мэты і задачы ў імя беларускага нацыянальнага Адраджэння. Думаю, не перабольшу, калі скажу, што асноўная мэта вашага таварыства — па-сапраўднаму святая. А заключаецца яна, як запісана ў пасведчанні аб рэгістрацыі вашага аб'яднання, у "аднаўленні ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэнні ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковым развіцці і захаванні яе чысціні і самабытнасці, садзейнічанні забеспячэнню ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы".

Такога таварыства, як ваша, наколькі мне вядома, акрамя Украіны няма больш ні ў адной рэспубліцы былога СССР. І калі зыходзіць з логікі, здаровага сэнсу гэта — не натуральна. Сапраўды, дзе, у якой яшчэ дзяржаве ёсць патрэба ў абароне роднай мовы, дзяржаўнай мовы! Цывілізаваны свет да такога проста не дадумаўся.

А вось нам, беларусам, абараняць, прапагандаваць, распаўсюджваць роднае слова не тое што трэба, а проста неабходна. Хаця ўсім павінна быць зразумела: ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна. Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

Такія мае асабістыя падыходы да гэтага вельмі важнага дзяржаўнага пытання. І сказаў я ўсё не таму, што супраць Таварыства беларускай мовы, а таму, што ўпэўнены: у нашай складанай сітуацыі гэта — адно з выйсцяў са становішча.

Не думаю, што перабольшу, калі скажу: сёння мы жывём у час трывогі.

Трывогі за суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

Трывогі за наша нацыянальна-культурнае Адраджэнне.

Трывогі за ўсё беларускае!

На вялікі жаль, ёсць і іншыя трывогі. І наша з вамі задача, наш з Вамі святы абавязак — супрацьстаяць ім, не дазволіць пэўным сілам вярнуць Беларусь у таталітарны рэжым.

Мы павінны быць вытрыманымі і мужнымі ў сваіх дзеяннях. перакананымі, што робім добрую, патрэбную справу.

Разам з тым я добра ведаю: ідэалы незалежнасці рэспублікі, ідэалы адраджэння нацыі сёння дарагія большасці нашага народа. І для таго, каб пераканацца ў тым, не трэба праводзіць рэферэндумы, заказныя апытанні і анкетаванні. Трэба проста пабываць сярод простых людзей, пацікавіцца: чым, як, на якія сродкі, у імя чаго жывае наш чалавек сёння?

Я цвёрда перакананы ў тым, што матэрыяльная нястача, недахоп сродкаў на прыстойнае чалавечае існаванне — а гэта мы маем зараз скрозь і ўсюды — не прымусяць наш народ здаць суверэнітэт, пайсці да кагосьці па міластыню, бо нездарма кажуць у нас на Беларусі, што "хлеб жабрачы — хлеб сабачы".

Наша родная мова, як і зусім у недалёкія часы, зноў выцясняецца са штодзённага ўжытку. Выцясняецца на беларускім радыё і тэлебачанні, у іншых сродках масавай інфармацыі. Яшчэ больш трывожна тое, што спыняецца адраджэнне нашай нацыянальнай школы. Дзе гвалтам, а дзе — з дапамогай ашуканства — ідзе русіфікацыя не толькі школ, тэхнікумаў, ВНУ, а і ўстаноў і арганізацый. Сумна ўсё гэта і трывожна. І давайце сёння разам падумаем, як гэты працэс спыніць.

Я не хачу сённяшнім выступленнем даць падставы гаварыць пра мяне як пра прапаведніка русафобіі. Я зусім не супраць прыгожай рускай мовы, але кожная павінна займаць сваё месца ў нашай краіне.

Пагэтаму давайце працаваць!

Праца, якая чакае нас усіх наперадзе, запатрабуе вялікіх сіл, энергіі, сапраўднай мужнасці. Але іншага выйсця няма. Наш народ, яго Вялікасць Беларуса трэба ў прамым сэнсе слова ратаваць. І найперш — праз абарону роднай мовы.

Я выдатна разумею: шлях да таго, калі беларускае слова сагрэе душы і сэрцы нашых людзей, яшчэ далёкі. Але гэта ваш, і мой асабіста, наш агульны шлях. Пойдзем разам! Я — як чалавек і грамадзянін, як дэпутат Вярхоўнага Савета цяперашняга дванаццатага і наступнага, трынаццатага скліканняў — гатовы ісці з вамі! Я веру ў сваю Айчыну і ў яе светлую будучыню!

# КОМПАС КУЛЬТУРЫ

- **17 кастрычніка** ў Доме літаратара адбылася прэм'ера мастацкіх фільмаў Віктара Шавялевіча "Пастка для зубра. Вітаўт" і "Пастка для зубра. Ягайла". Аўтар сцэнараў — Сяргей Тарасаў.
- **19 — 20 кастрычніка** ў Доме літаратара будзе працаваць XV з'езд Беларускага саюза мастакоў.
- Беларуская акадэмія музыкі распачынае "Вечары папулярнай класічнай музыкі" канцэртнага сезона 1995 — 1996 гг. Пачатак усіх канцэртаў а 19 гадзіне ў канцэртнай зале па адрасу: Мінск, Інтэрнацыянальная, 30. Галоўны рэжысёр — першы прарэктар БелАМ, прафесар Вадзім Яканюк, рэжысёры — Элеанора Скуратава, Ларыса Іванова. Першы канцэрт (**26 кастрычніка**) — "Парад віртуозаў".
- Тэатр "Жэст" вярнуўся з гастрольнай паездкі па Нямеччыне. Зараз рыхтуецца паказ прэм'ернага спектакля.

# ПЕРЫФЕРЫЯ

**Верасень**

- У Брэсцкім дзяржаўным універсітэце праходзіла навукова-практычная канферэнцыя "50-годдзе ААН і шляхі далейшага ўмацавання і развіцця дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі". У канферэнцыі прымалі ўдзел Прадстаўніцтвы ААН у Беларусі, вучоныя з мінскіх і брэсцкіх ВНУ, прадстаўнікі дзяржаўнай улады і грамадскіх арганізацый, журналісты, выкладчыкі, студэнты.
- У Гомелі абласны Цэнтр народнай творчасці правёў тэатральную гасцёўню пад назвай "Фестываль адбыўся. Што далей?" Прымалі ўдзел кіраўнікі народных і вядучых тэатраў вобласці. Быў прааналізаваны ўдзел самадзейных тэатральных калектываў вобласці ў абласным тэатральным фестывалі "Памяць сэрца", прысвечаны 50-годдзю Вялікай Перамогі, разглядаліся перспектывы развіцця тэатра на Гомельшчыне. Удзельнікі наведалі прэзентацыю эстраднага тэатра "Рандэву".
- Выставу "І горы навокал яго...", прысвечаную Іерусаліму і праводзімую ў рамках святкавання яго 3000-годдзя, маглі наведаць жыхары Віцебска. Раней з творчасцю мастакоў Ізраіля 70-х — 80-х гадоў пазнаёміліся мінчане.
- У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі праходзіла тэматычная выстава, прысвечаная свету жанчыны. У экспазіцыі быў прадстаўлены разнастайны посуд, знойдзены на тэрыторыі Віцебшчыны падчас раскопак, а таксама жаночыя аксесуары XIX і XX стагоддзяў, вясельныя ўборы 40—50-ых гадоў нашага стагоддзя.

**По матэрыялах цэнтра Інфармкультуры Нацыянальнай бібліятэкі падрыхтаваў Алесь ТУРОВІЧ**

БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА
**абвяшчае конкурс сярод беларускіх мастакоў і фотамастакоў**

## «ВЕЧНЫЯ ГАРАДЫ»

Пераможцам конкурсу (тром мастакам і тром фотамастакам) будзе прадастаўлена магчымасць ажыццявіць паездку ў адзін з трох гарадоў - **Іерусалім**, **Афіны** або **Рым** - для творчай працы на працягу дзесяці дзён.
По выніках гэтых паездак плануецца арганізаваць выставу пад назвай

***«Іерусалім - Афіны - Рым»***

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна падаць:
- заяўку з указаннем выбранага вамі горада;
- матывацыйны ліст, які тлумачыць ваша жаданне ажыццявіць творчую паездку і ўтрымлівае апісанне творчага плану;
- падрабязную творчую біяграфію.

Дакументы, напісаныя ад рукі, разглядацца не будуць.
Апошні тэрмін падачы заявак - **10 лістапада 1995 года.**



Дакументы дасылаюцца на адрас:
***220027 г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 65, корп. 11А, пакой 420,*** Беларускі Фонд Сораса, з паазнакай: на конкурс **«ВЕЧНЫЯ ГАРАДЫ»**.

# "АСЕННІ ЗОРКАПАД" —



гэтак называецца новая праграма, якой Гомельскі цырк адкрывае свой 24-ы сезон. Жыхары вобласці і госці горада могуць убачыць выступленні зорак Расійскага і Украінскага цыркаў.

*На здымку: падчас прадстаўлення "Асенні зоркапад".*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ**

# УСІМ ПА КАЗЦЫ

9 кастрычніка ў Мінскім тэатры юнага гледача адбылася прэзентацыя кнігі "Казкі дзяцей Беларусі". Унікальнае выданне падрыхтавана выдавецтвам "Юнацтва" і Беларускім фондам сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям" з дапамогай амерыканскіх сяброў. Два з паловай гады таму яны аб'явілі рэспубліканскі дзіцячы конкурс "Усім па казцы". На прапанову даслаць свае творы адгукнуліся тысячы юных аўтараў. Строгае журы адабрала 56 найбольш цікавых казак, якія і склалі кнігу.

Падчас прэзентацыі ў зале тэатра гучалі песні і казкі, пераможцаў конкурсу віншавалі артысты, пісьменнікі, а кіраўнік фонду "Мы — дзецям" Уладзімір Грыдзюшка зачытаў дасланае юным аўтарам віншаванне ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі.

На свяце новай кнігі прысутнічалі паўнамоцныя паслы Украіны і Балгарыі, прадстаўнікі амбасад Чэхіі, Польшчы, Германіі і Расіі.

**Глеб КАНУННІКАЎ, удзельнік конкурсу "Усім па казцы"**

г.Гродна

# ПАШЫРАЕЦЦА ГЕАГРАФІЯ МЕДЫЦЫНСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

***Сёння ў Гродне пачаў сваю працу XI з'езд хірургаў Рэспублікі Беларусь. Арганізатары мерапрыемства — Міністэрства аховы здароўя нашай краіны і выставачны комплекс "Медкамцэнтр". Напярэдадні мерапрыемства ў рэдакцыю газеты завітаў прадстаўнік "Медкамцэнтра", які апошнім часам набывае важную ролю ў стварэнні цывілізаванай прасторы ў галіне медыцынскіх зносін паміж Беларуссю і краінамі СНД, а таксама дзяржавамі еўрапейскага свету. Вашай увазе — невялікая гутарка з Валерыем Мацюніным.***

**— Чым вызначаецца падобнае мерапрыемства ад астатніх такога кшталту форумаў?**

— З'езд хірургаў Беларусі — чарговы крок у справе пашырэння дзелавога супрацоўніцтва Міністэрства аховы здароўя і выставачнага комплекса "Медкамцэнтр". Па-першае, звярніце ўвагу на прадстаўніцтва на з'ездзе. Удзел у яго працы прымуць больш як 300 спецыялістаў з усіх рэгіёнаў Беларусі: вядучыя хірургі абласцей, гарадоў, раёнаў, кіраўнікі органаў аховы здароўя, вучоныя, кіраўнікі шпіталяў, клінік, навукова-даследчых інстытутаў, прадстаўнікі ўрада, парламента. На з'езд запрошаны медыцынскія работнікі з Расіі, Украіны, Казахстана, Германіі, Польшчы, краін Балтыі. Мы ўсур'ёз апякуемся пошукам шляхоў росту культуры, узроўню медыцынскага абслугоўвання.

**— Пагадзіцеся, што ў сённяшні час дасягнуць гэтага вельмі няпроста...**

— Безумоўна. Эканамічнае бязладдзе адыгрывае сваю ролю. Але ж і на месцы стаяць нельга. Таму вось агульнымі намаганнямі — Міністэрства аховы здароўя, Навуковага таварыства хірургаў Беларусі і выставачнага комплекса "Медкамцэнтр" — і праводзім выстаўку "Час для здароўя-95: новыя тэхналогіі ў хірургіі".

**— Прабачце, калі не памыляюся, вы ж у свой час праводзілі і выставу па малаінвазійнай хірургіі?**

— Гэта хутчэй быў сімпозіум, наладжаны сумесна з Міністэрствам. Тады ў рамках мерапрыемства праходзілі нават аперацыі па малаінвазійнай ці безскальпельнай хірургіі. А ўвогуле ж за апошнія два гады "Медкамцэнтрам" праведзена больш як 15 выставаў, кангрэсаў, семінараў.

**— І што чакае гледачоў, удзельнікаў на сённяшняй выставе?**

— Удзел у выставе прымаюць каля 40 фірмаў і кампаній. Усе яны — вядучыя вытворцы медыцынскай тэхнікі, медабсталявання, хірургічных інструментаў, а таксама дыягнастычнага абсталявання, фармацэўтычных прэпаратаў, лекавых сродкаў. Геаграфія ўдзельнікаў выставы самая шырокая. Тут і нашы беларускія фірмы і прадпрыемствы, расійскія вытворцы і пастаўшчыкі, замежныя кампаніі. Прымаюць удзел замежныя кампаніі — з Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, ЗША, Польшчы. Няма сумненняў, што спецыялісты з цікавасцю пазнаёмяцца з найбольш сучаснымі, перадавымі тэхналогіямі.

**— Будзем і мы спадзявацца на лепшае ў наладжванні медыцынскага абслугоўвання, на пашырэнне ролі "Медкамцэнтра" ў гэтай важнай справе.**

**Гутарыў Максім ДУБОВІК**

**Міністэрства культуры і друку смуткуе з прычыны смерці былога начальніка бібліятэчнай інспекцыі Іраіды Аляксандраўны Санковай і выказвае спачуванне яе сям'і і блізкім.**

СІТУАЦЫЯ

# ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З КУЛЬТУРЫ



*(Працяг. Пачатак на стар.1)*

**— Ніл Сымонавіч, мне ўжо даўно здаецца, што беларуская культура трапіла ў нейкае зачараванае кола. З аднаго боку, яна можа развівацца толькі ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці, а з іншага — Беларусь не здольная быць незалежнай, пакуль нацыянальная культура не разаўецца да сучаснага, канкурэнтаздольнага ўзроўню. Ці моха тут быць, на ваш погляд, нейкае выйсце?**

— Сітуацыя, сапраўды, падобная на такое зачараванае кола, але ўсё ж такі, я думаю, выйсце ёсць. Беларусь, няхай фармальна, ужо існуе як незалежная дзяржава, і гэта, безумоўна, моцны стымул для развіцця нацыі. Але каб гэты фармальны суверэнітэт стаў рэальным, ёсць толькі адзін шлях, доўгі і пакутлівы: пакрысе назапашваць і канцэнтраваць нацыянальную свядомасць. Пакуль бальшыня народу нашага не ўсвядоміць сябе гаспадарамі свабоднай суверэннай дзяржавы, у якой яны здольны забяспечыць свае матэрыяльныя і духоўныя запатрабаванні, да таго часу Беларусь будзе дзяржавай без нацыі. Трэба патроху заваёўваць на свой бок людзей. І мне здаецца, што за апошнія некалькі гадоў нацыянальная інтэлігенцыя сяго-таго дасягнула ў гэтым кірунку. Абазначылася ўстойлівая тэндэнцыя да пашырэння патрыятычных настрояў нават сярод тых слаёў насельніцтва, ад якіх я гэтага так хутка не чакаў. І асабліва прыемна бачыць прыхільнасць моладзі да нацыянальнай дзяржавы. Напэўна, вось у гэтым выйсце з зачараванага кола, пра якое вы кажаце.

**— Так, галоўнае пакуль — захаваць суверэннасць. Але давайце уявім сабе, што адбылося-такі ўз'яднанне Беларусі з Расіяй. Якую стратэгію абраць нацыянальнай інтэлігенцыі тады?**

— Па-першае, я не магу сабе ўявіць, каб такое аб'яднанне адбылося на практыцы. Я ўсё жыццё разумеў і падзяляў ідэалы нацыянальнай дзяржаўнасці, якія былі абвешчаны ў 1918 годзе стваральнікамі БНР, якія натхнялі Купалу, Коласа, Гаруна, Гарэцкага. Праўда, я не спадзяваўся, што Беларусь набудзе незалежнасць ўжо пры маім жыцці, бо бачыў, як далёка зайшоў працэс вынішчэння нацыянальнай свядомасці. І вясновы рэферэндум пацвердзіў, што мой песімізм быў не беспадстаўны. Дык вось, калі аб'яднанне, не дай Бог, усё ж такі адбудзецца, нацыянальнай інтэлігенцыі, мяркую, застанецца адно: працаваць на тое, каб радзіма аднойчы ізноў набыла свабоду і незалежнасць.

Правяду такую гістарычную паралель: у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай была зліквідаваная Польская дзяржаўнасць. Спробы вызваленчых паўстанняў, як Вы ведаеце, нічога не далі, але прыйшоў спрыяльны гістарычны час — і палякі адрадзілі сваю дзяржаву. І ўдалося гэта зрабіць толькі таму, што ўсе тыя сто з гакам гадоў яны выхоўвалі дзяцей патрыётамі, выхоўвалі такую любоў да Радзімы і веру ў яе будучую незалежнасць, што былі прыкладам для ўсіх заняволеных народаў Еўропы. Вось так і нам трэба будзе выхоўваць любоў да Айчыны і чакаць, калі гісторыя ізноў пойдзе нам насустрач, як на пачатку 90-х. Але, паўтараю, хачу верыць, што здабытую незалежнасць мы не страцім.

**— 6 кастрычніка адбыўся IV з'езд Таварыства беларускай мовы, нязменным лідэрам якога Вы з'яўляецеся. У свой час яно было створана пры поўнай падтрымцы ЦК і Урада БССР. Цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі, здаецца, менш зацікаўлена ў развіцці нацыянальнай культуры, чым былыя камуністычныя ўлады. Сённяшнія ўмовы, напэўна, вымагаюць пераменаў у стратэгіі і тактыцы Таварыства?**

— Бясспрэчна, ТБМ было створана пры згодзе і падтрымцы ЦК КПБ як культурна-масавая арганізацыя, што займаецца пашырэннем ужытку беларускай мовы ў грамадстве. Напрыканцы 80-х партыя павярнулася тварам да нацыянальнага пытання. А ў 1991 годзе меркавалася нават правесці пленум ЦК КПБ з прыняццем пастановы, паводле якой усе партарганізацыі рэспублікі павінны былі б перавесці праз паўтары гады сваё справаводства на беларускую мову. І Закон аб мовах, які абвесціў беларускую адзінай дзяржаўнай, быў прыняты ў 90-м годзе толькі дзякуючы падтрымцы ЦК.

Цяпер — наконт апошняга з'зду ТБМ. У апошні час вельмі істотна змяніліся і палітычная, і эканамічная сітуацыя ў краіне. Раней мы маглі разлічваць на падтрымку дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, а зараз ужо трэба шукаць нейкія альтэрнатыўныя вытокі фінансавання. На вялікі жаль, сярод прыватных прадпрымальнікаў, нават патрыётаў, яшчэ вельмі мала людзей, якія б разумелі, што менавіта развіццё нацыянальнай культуры і мовы можа паспрыяць, .як нішто іншае, захаванню суверэнітэту краіны.

Апрача таго, пасля рэферэндуму мы мусім змяніць акцэнты ў сваёй дзейнасці. Раней мы больш звярталі ўвагу на культуру мовы, асабліва ў сродках масавай інфармацыі, але наступствы рэферэндуму і культурная палітыка выканаўчай улады прымушаюць нас ужо змагацца за выратаванне мовы. Канешне, яна юрыдычна засталася дзяржаўнай, але фактычна пачаўся такі наступ на беларускую школу, друк і саму мову, што ТБМ мусіць думаць перадусім пра гэта.

Наша парламенцкая камісія не падтрымлівала ідэю рэферэндуму і наступныя дзеянні Прэзідэнта, але на яе меркаванні ўжо ніхто не звяртае ўвагі. Нас абсалютна ігнаруюць з таго часу, як усталявалася прэзідэнцкая форма праўлення дзяржавай. Міністэрства адукацыі і іншыя ведамствы, якія звярталіся раней да нас па розных моўных і культурных пытаннях, цяпер "забываюць" на нашу камісію, бо "выконваюць народную волю". І гэта пры тым, што змены ў Закон аб мовах і Канстытуцыю яшчэ не ўнесены, а беларуская мова юрыдычна застаецца адзінай дзяржаўнай. Вынікі рэферэндуму (досыць сумніўныя, дарэчы) яшчэ павінны быць зацверджаны парламентам.

**— Гэта проста яшчэ адзін прыклад знявагі заканадаўчай улады з боку ўлады выканаўчай. Дарэчы, Закон аб мовах быў прыняты, калі Інстытута прэзідэнцтва яшчэ не існавала, дык ці не трэба было ў свой час увесці ў закон ці нават у Канстытуцыю абавязак Прэзідэнта быць гарантам развіцця нацыянальнай культуры і мовы?**

— Прэзідэнт прыняў прысягу быць гарантам дзяржаўнай незалежнасці, а таксама правоў і свабод грамадзяніна. Ён з'яўляецца гарантам выканання Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь і, такім чынам, дзяржаўнасці беларускай мовы. Безумоўна, было б добра, калі б у нашай Канстытуцыі быў асобны артыкул, што Прэзідэнт нясе асабістую адказнасць за развіццё культуры і мовы карэннага насельніцтва дзяржавы. Давайце пажадаем наступнаму складу парламента ўнесці такое дапаўненне ў Канстытуцыю. Хаця мне і слаба верыцца, што гэта магчыма — зыходзячы з таго, якія партыі пераважаюць ва ўжо абранай частцы новага парламента. У свой час я, дарэчы, выступаў супраць прэзідэнцкай формы кіравання, на пасяджэннях Прэзідыума неаднойчы браў слова, даказваў, што мы не гатовы да яе, бо абавязкова прыйдзе дзядзька з кіем і мы будзем мець шмат бяды. Але, бачыце, парламент аказаўся благім знаўцам палітычнай сітуацыі і псіхалогіі ўласнага народа. Спяшаліся хутчэй зрабіць адзінаначалле ў дзяржаве, а ў выніку вырылі яміну нават самім сабе.

**— У свой час Вы выступалі за тое, каб скасаваць званне народнага паэта. Як Вы мяркуеце, ці не прыйдзем мы да таго, што некаторыя дзяржаўныя дзеячы будуць прэтэндаваць на званне народнага палітыка Беларусі?**

— Па-першае, хачу ўдакладніць, што гаворка ішла не толькі пра званне народнага паэта, але і пра ўсю сістэму ганаровых званняў: заслужаных і народных артыстаў, мастакоў, настаўнікаў і г.д. Мы абмяркоўвалі гэтае пытанне на пасяджэннях камісіі (пры тым, што я сам маю званне народнага паэта і заслужанага дзеяча навукі). Мы мелі на ўвазе, што ва ўсіх цывілізаваных краінах неяк абыходзяцца без гэтых ганаровых званняў, бо існуюць іншыя спосабы адзначаць і падтрымліваць найбольш таленавітых людзей, што маюць вялікія заслугі перад Бацькаўшчынай. Вядома, што ганаровыя званні пачалі надавацца ў сталінскія часы за асабістую адданасць нават не камуністычнай ідэалогіі, а персанальна партыйнаму кіраўніцтву.

Ганаровае званне давала права на пэўныя прывілеі і матэрыяльныя даброты — і таму часта скарыстоўвалася як хабар творцам, як плата за пэўныя паслугі. Безумоўна, творчых людзей падтрымліваюць ва ўсім свеце і ўзнагароджваюць ордэнамі, даюць стыпендыі, прысуджаюць прэміі і г.д. І нам у камісіі хацелася перайсці ў гэтай справе да сусветных стандартаў . Але вярхі беларускай інтэлігенцыі, асабліва артысты, рашуча не прынялі прапановы нашай камісіі. Пры сустрэчы нават з жартам казалі, што ўсіх нас паб'юць і парвуць на кавалкі, калі мы будзем настойваць, бо званні, маўляў, — адзінае, што іх яшчэ неяк трымае на плаву. Так нічога і не атрымалася. А цяпер у нашай камісіі ўвогуле адабралі паўнамоцтвы выбіраць кандыдатуры на ганаровыя званні, цяпер гэтым займаецца прэзідэнцкая каманда.

Адносна другой часткі вашага пытання — ведаеце, я не здзіўлюся, калі аднойчы раніцай пачую ці прачытаю, што ў нас з'явіліся новыя ганаровыя званні: заслужаны і народны палітык Рэспублікі Беларусь. Калі столькі робіцца непрадуманага і смеху вартага, каб не сказаць мацней, — чаму не можа ўсплыць і такая дурнота?

**— Ці можна спалучаць палітычную дзейнасць з паэтычнай творчасцю? Часам мне шкада, што ніхто з трыбуны ў зале пасяджэнняў не чытае вершаў.**

— У парламенцкай дзейнасці ёсць шмат натхняльнага для сатыры, перш за ўсё. У зале пасяджэнняў я прысутнічаю не толькі як дэпутат, але і як літаратар. Сяджу, назіраю, нейкія думкі кладуцца на сэрца і, напэўна, у гэты час западае ў душу нейкае зерне будучага верша. Мною і не мала напісана было за гэтыя пяць гадоў публіцыстычных вершаў, калі хочаце — палітычнай лірыкі. Купала, Байран, Маякоўскі не саромеліся спалучаць паэзію з палітычнай — дык чаму я павінен саромецца?

Іншае пытанне — чаму не гучаць з трыбуны парламента вершы. Яны павінны былі б гучаць не з вуснаў тых двух паэтаў, што прысутнічаюць у зале (маіх і Вярцінскага). Я думаю пра іншае: чаму ніводны дэпутат не спрабуе выказаць свае думкі хай сабе цытатай з вядомага паэта? Прычына простая: дэпутаты ў большасці сваёй не чытаюць і не ведаюць паэзіі. Я не памятаю, каб хтосьці з трыбуны цытаваў не тое што сучасных паэтаў, але і класікаў — Коласа, Багдановіча, Купалу, а хіба ў іхняй паэзіі мала актуальнага, востранадзённага і сёння?

**— Якімі Вам, Ніл Сымонавіч, бачацца перспектывы беларускай літаратуры? Ці павінна яна заставацца справай досыць вузкага кола людзей або шукаць усе магчымыя шляхі да свядомасці шырокіх масаў?**

— Думаю, літаратура яшчэ доўгі час будзе адыгрываць важную ролю ў жыцці грамадства — і палітычным, і духоўным. Гэтаму, безумоўна, можа паспрыяць і выкарыстанне літаратарамі сродкаў масавай інфармацыі або іншых выхадаў на шырокія колы насельніцтва. Якой павінна быць літаратура? Напэўна, тут і не варта гадаць. Яна, як іншыя віды творчасці, вар'іруецца самім жыццём. Трэба давярацца жыццю. Канешне, хацелася б, каб з'явілася больш сур'ёзных твораў, якія б адлюстроўвалі новую сітуацыю ў грамадстве, перамены ў светапоглядзе і маралі народа. Цікавых твораў пакуль малавата, але пошукі ідуць. Мяне ўсцешыла новая аповесць Віктара Казько ў апошнім нумары "Полымя" — незвычайнае спалучэнне фантастыкі, паэзіі прыпавесці, дакументалістыкі і эсэістыкі, праз якое дасціпна і нават самаіранічна асэнсоўваюцца вельмі актуальныя праблемы.

**— А як Вы ставіцеся да літаратурных эксперыментаў удзельнікаў Таварыства Вольных Літаратараў і руху Бум-Бам-Літ?**

— Беларускай псіхалогіі надзвычай уласцівы кансерватызм, схільнасць да традыцыйных формаў жыцця і творчасці. Тым не менш у 20 — 30-я гады і ў нас на Беларусі развіваўся свой літаратурны авангард, вяліся актыўныя пошукі новых стыляў і жанраў. Я ўжо не кажу пра іншыя славянскія краіны. І калі авангардызм нават лічыць нейкай хваробай росту — усё адно ён мае сваё апраўданне, бо праз яго літаратура можа прыйсці да нейкага новага, больш шырокага светапогляду, да больш глыбокага асэнсавання рэчаіснасці.

Я з цікавасцю чытаю эксперыментальныя творы і ў дадатку "ЗНО" да вашай газеты, і ў кніжачках паэзіі ТВЛ — можа, дзе-нідзе ўсміхаюся, бо сапраўднай навізны не заўважаю, але ніколі не спяшаюся асуджаць: добра, перахварэйце, хлопцы. Трэба спакойна да гэтага ставіцца: гэта ж, урэшце, не крымінал, не прапаганда фашызму. Шукае чалавек новыя сродкі самавыяўлення — што ж тут благога? Можа, і сапраўды знойдзе. А кожны творчы чалавек — гэта часцінка грамадства, і ўсё, што ён робіць, прыналежыць нашай агульнай культуры. У слове самавыяўляецца не толькі асобны чалавек, але і праз яго — увесь народ. І таму я параіў бы кансерватыўным літаратарам сталага ўзросту быць больш талерантнымі і нават падтрымліваць нетрадыцыйнае самавыяўленне маладых. Асабіста я так пісаць ужо не буду, не тыя гады, але што з таго? Магу толькі пашкадаваць, што калі пачыналі мы, то не мелі абсалютна ніякіх умоваў для нейкіх пошукаў: ледзь-ледзь што не так у змесце або форме — адразу білі даўбешкай па галаве. Я не хачу адпрэчваць значнасць таго, што зрабіла нашае пакаленне, нашыя папярэднікі і паслядоўнікі, але мы, магчыма, зрабілі б і больш, раскрыліся б неяк ярчэй, калі б жылі ў іншых умовах. І ў гэтым сэнсе лёс некалькіх літаратурных пакаленняў можна назваць калі не трагедыяй, то, безумоўна, драмай.

**— Гэтае інтэрв'ю мы запісваем для юбілейнага, 200-га нумара "Культуры". Што пажадалі б Вы ёй — магчыма, таго ж, што і ўсёй беларускай культуры наогул?**

— Шаноўнаму выданню, якое мае сваё выразнае аблічча, хачу пажадаць доўгага жыцця. Праблемы культуры ў нас на Беларусі як, можа, нідзе сёння вострыя і актуальныя. І не дай Бог, што мы будзем звяртаць на іх яшчэ менш увагі, чым сёння. Яны заслугоўваюць непараўнальна больш увагі — і з боку дзяржавы, і з боку грамадскасці.

Мы ўсе павінны па-дзяржаўнаму думаць пра развіццё культуры. І вялікую ролю ў гэтым можа і павінна адыграць спецыялізаванае выданне — тыднёвік "Культура". Таму хай "Культура" набірае яшчэ больш творчых сіл, робіцца яшчэ больш прафесійнай, хай робіцца яшчэ больш мужнай і смелай у абмеркаванні праблемаў нашай духоўнасці, культуры і мовы. Дай Бог мужнасці і рэдактару, і ўсім вам, супрацоўнікам і аўтарам газеты.

## ЛЯ ФАНТАНА

# КАРАЛІ І КАПУСТА

***Ад чаго людзі не ствараюць новае кіно і драмтэатры? Я пытаюся: ад чаго людзі не ствараюць і не будуюць іх як банкі, напрыклад, для "капусты"? Часам здаецца, вось ідзеш па родненькім Скарынавым і раптам упрэшся ў "Прым'еор тэатр", а праваруч — "Ду(блі)катфільм" або тэатр імя Купюры... А білетаў не купіць, як бы ні крычаў: "Даляр, марка, расія..."***

***Вось табе і каралі з капустай! Даўно вядома, хто мае "капусту", не заўсёды — кароль. Часцей адбываецца наадварот, і тэатральнае мастацтва сцвярджае гэта на планетарным узроўні штосезонна неўміручай п'есай "Каралі і капуста". А кіно? Гэта ж бясконцае каралеўскае свята, а свята, якое заўсёды без "капусты", дык гэта тэлебачанне!***

***Не, не ад дыягнастычнага сучаснага суму наша бескапусная і непаўторная "Культура" нарадзіла свайго трэцяга кіта — "КіТТ". Пагадзіцеся, каралеўскія народзіны. Традыцыйна — кароль голы, але ж якія ў яго разумныя дзеці: "Мастыхін", "ЗНО" і малодшы "КіТТ".***

***Нарэшце, выпусціўшы сваё дзіця ў мора-акіян перыёдыкі, пажадаем маленькаму КіТТу, каб ніхто і ніколі не перакрыў яму фантан.***

**Жанна ВАСАНСКАЯ**




## СОЛА ДЛЯ МУЗЫЧНАЙ ПАЎЗЫ

# МУЗЫКА ТОЎСТЫХ



Сябры мае, ці ўтульна вам у акаляючым вас гукавым асяроддзі, ці не сумна вам, ці не цесна ў абдымках поп-монстраў, ці не падкатвае да горла камяк насустрач асляпляльным усмешкам эстрадных "зорак", ці не рэжуць вам слых рэзкагалосыя куміры? Калі не, дык, мабыць, вас не зацікавіць мой маналог, які — крык душы і яе песня, пастка Мефістофеля і размахванне кулакамі ля люстэрка, на якое "неча пенять". Аднак усё гэта паміж іншым, як той казаў. Калі разам з любоўю да чалавека нас сустракае процьма праблем, дык любоў да мастацтва, стасункі з ім дораць толькі станоўчыя эмоцыі.

Аднак не ўсё так проста. Мая жарсць — джаз, а гэта мастацтва настолькі непапулярнае ў масавай аўдыторыі, што патрабуе пастаяннай рэабілітацыі. Вось прызнайцеся, што прыходзіць вам у галаву пры ўзгадванні джаза (калі вы, безумоўна, не з'яўляецеся ягоным знаўцай)? Вясёлыя, шумлівыя аркестры, танцпляцоўкі, пракураныя рэстарацыі, бесклапотныя ўсмешкі. Ці, наадварот, засяроджаны твар музыканта, які іграе занадта "разумныя" меладычныя пасажы. Але гэта ўсё гістарычна апраўдана, бо джазавыя аркестры ў СССР звычайна фармаваліся з эстрадных, што надоўга захоўвала танцавальнае адценне джазавых аранжыровак, а разумовасць, якая адштурхоўвала шмат каго з патэнцыйных прыхільнікаў джазавага музіцыравання, бярэ свае вытокі, мяркую, з паўсюднай і адзінай акадэмічнай музычнай адукацыі. што была дадзена нашым джазменам.

Але ці азначае гэта, што джаз сёння — толькі нагода для грэбавання, абыякавасці ці шматзначнай напышлівасці? Калі б гэта было так, дык гэты від мастацтва павінен быў бы знікнуць з нашай рэчаіснасці: нам бы выжыць, працягнуць, прахарчавацца як-небудзь, а тут музыка, якую і не зразумець адразу, і не прызвычаішся да яе без пэўнай падрыхтоўкі (гэта ж табе не Амерыка тая, дзе ўся эстрада пабудавана на "свінгу"). Іншая справа — наша поп-культура: паклаў песенную сыравіну на канвеер, завёў шарманку і — атрымайце замову, разнявольцеся, калі ласка, ад вас больш нічога не патрабуецца — тлумная песенная завіруха самастойна папрацуе над вашым духоўным аблічцам.

Троху рэзка, мабыць, залішне абагульнена. Безумоўна, і эстрада нашая не ўся такая кепская. Дарэчы, як і раней, прыемна бачыць і чуць на канцэртах Валерыя Дайнэку — прыклад таго, што музыкант — асоба ў любым стылі здольная аддзяліць зерне ад шалупіння. У ідэале такой самай здольнасцю павінна валодаць і публіка, але... Усё больш аднолькава-бясконцых спявачак, што пяюць у аднолькавай манеры аднолькавыя песні, але ж авацыі не сціхаюць — значыць, попыт вялікі!

Але асабістыя адчуванні ад беларускіх эстрадных шоў — жудасныя. І жудасней за ўсё — пачуццё пастаяннай прыніжанасці ад таго, што ў якасці музыкі табе прапануюць нейкі сурагат, лічачы, што ты гэта зглытнеш, і — расчараванне ў людзях, якія гэтаму прымітыўнаму відовішчу прысвячаюць сваё жыццё.

Назіраючы ўсё гэта, я яшчэ больш прыкіпаю душою да джаза, які сёння — не "музыка тлустых", а, так бы мовіць, музыка чыстых душой, таленавітых, разумных, добрых, тых, хто ўмее любіць, таму што займацца джазам, не любячы яго — немагчыма. Так, шмат у чым гэта — элітарнае мастацтва, яно прыносіць інтэлектуальнае задавальненне тым, хто ў стане прасачыць за развіццём музычнай думкі і ацаніць вынаходлівасць саліруючага выканаўцы. Але не меншае эмацыянальнае задавальненне ад джазавай музыкі можна атрымаць, не засяроджваючыся на яе тэхналагічных асаблівасцях, у яе дастаткова эфектны і вонкавы бок. Дзе яшчэ так сакавіта, нізкавата "спявае" саксафон, пяшчотна лашчыць слых мяккі, празрысты гук гітары, так разнастайна-мудрагеліста гучыць фартэпіяна, дзе яшчэ так шматслоўна "выказваецца" кантрабас і так вольна лётае чалавечы голас! І самае галоўнае, джаз заўсёды — непрадказальнасць, бо імправізацыя — ягоная стыхія. Можна шмат гадоў слухаць аднаго музыканта ці ўлюбёную тэму ў трактоўках некалькіх музыкантаў — гэта заўжды будуць розныя кампазіцыі. Колькі выканаўцаў — столькі варыянтаў, індывідуальная творчасць — аснова джазавага мастацтва. А таму нядзіўна, што любая прыналежнасць да джаза заўсёды выклікае павагу.

Аднак небяспека "захварэць" на джаз у нашым горадзе не надта вялікая. Адзіная радасць — джаз-фестывалі, што наладжваюцца штогод дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі (рэдкі выпадак арганізацыйнай актыўнасці). Дзякуючы ім шырокая публіка ведае, што ўсё-такі гэтай музыкай у нас нехта займаецца. Такім чынам, мы маем добры аркестр, які, маючы вялікі патэнцыял у галіне джазавай творчасці, на жаль, рэалізуе яго на бяскрайняй паверхні беларускай эстрады, і ў ім — некалькі малых саставаў. Акрамя гэтага, у Мінску існуе дыксіленд "Рэнесанс", "Мінск-джаз-квартэт" пад кіраўніцтвам Яўгена Уладзімірава (ён, дарэчы, адзіны аказаўся здольным "выцягнуць" штомесячныя канцэрты ў створаным ім джаз-клубе з запрашэннем "зорак" з блізкага замежжа), перыядычна збіраючыя свае склады піяністы Аркадзь Эскін і Андрэй Піталёў і яшчэ некалькі пакуль малавядомых музыкантаў-інструменталістаў. Вакальны джаз у нас чамусьці не прыжываецца.

Аднак і акрамя джаза ў нашым горадзе ёсць што паслухаць. Вось пра ўсё гэта мы з вамі і пагамонім наступным разам.

**Ганна АЛАДАВА**

## БЛІЦ-КАДР

# ЭКАНАМІС

Гаспадыня "Эканамікста" Беларускага тэлебачання — Таццяна Сокава. Сёлета Таццяна скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў з чырвоным дыпломам. І зараз, згодна з гэтым дыпломам, валодае прафесіяй рэжысёра тэлебачання.

Яе асоба — вядучая сур'ёзнай эканамічнай праграмы (амаль штотыднёвай) — па-ранейшаму вылучаецца на нацыянальным тэлеканале. Наколькі суадносіцца яе экранны імідж сур'ёзнай элегантнай маладой жанчыны з рэальным жыццём? — пытанне, якое цікавіць шматлікіх прыхільнікаў праграмы. І нас таксама.

Элегантныя класічныя касцюмы з англьскай крамы "Boutique" былі абраны Таццянай па ўласным жаданні, хаця ў нетэлевізійным жыцці яна, хутчэй, набліжаецца знешне да падлетка.

Любімы пісьменнік, творамі якога Таццяна захапляецца, — Уладзімір Караткевіч.

Яна жыве ў жорсткім штодзённым рытме, які, аднак, яе задавальняе. Сям'я — бабуля і кот.

На нашае традыцыйнае пытанне пра перадачы БТ, яна адразу вылучыла праграму "Архіварыус" і асобу яе аўтара і вядучага Анатоля Зарубанава.

Яна марыць аб тых часах, калі ўсе інфармацыйныя праграмы будуць пачынацца як у Францыі, з самых важных падзей — падзей культуры.

**Г.Ш.**



*На здымку: Таццяна Сокава*



*Эскізы мастачкі Ганны Балаш да фільмаў "Пастка для зубра. Вітаўт" і "Пастка для зубра. Ягайла" рэжысёра Віктара Шавялевіча. Аўтар сцэнараў — Сяргей Тарасаў.*

КІТЫ

# "ГАЛЕРЭЯ" ТАЦЦЯНЫ

***На пытанне "Чым адрозніваюцца праграмы тэлебачання, якія ствараюцца незалежнымі тэлекампаніямі, ад дзяржаўных?" мой рэспандэнт, па прафесіі псіхіятр, адказаў: "У дадзеным выпадку для мяне гэта пытанне аб адрозненні шызафрэніі ад эпілепсіі. Яны, безумоўна, адрозніваюцца, але ўсё роўна з'яўляюцца формамі псіхічнага захворвання".***

***Сапраўды, у апошні час мы ўспрымаем тэлебачанне пад ракурсам сацыяльнага, медыцынскага і г.д. дыягназаў. І ўсё ж калі і далей прытрымлівацца медыцынскай тэрміналогіі, неабходна адзначыць і іншыя сімптомы. Асабліва гэта датычыцца перадач, падрыхтаваных незалежнымі тэлекампаніямі. Для праграм "Свайго кола" ФІТа характэрны здаровы прафесіяналізм. І па выніках розных рэйтынгаў, да якіх у апошні час звяртаюцца нашы сродкі масавай інфармацыі, лідзіруюць праграмы незалежных або камерцыйных... Так, амаль адразу ў кола ўвагі і прафесіяналаў, і простых гледачоў трапіла аўтарская праграма ФІТа "Галерэя". Яна так і заяўлена ў тэлепраграме, як "аўтарская праграма Таццяны Ягоравай"... Водгукаў на перадачу шмат. Даволі розных.***

***Ад захаплення да абвінавачвання ў непрафесіяналізме. "Галерэя" выходзіць на тэлеэкраны крыху болей за месяц. Спачатку меркавалася назва перадачы як "Таццянін дзень"...***

***Кожную суботу Таццяна Ягорава выходзіць са сваёй праграмай, пабудаванай у форме гутаркі з рознымі людзьмі. Яны прадстаўляюць розныя прафесіі, ад музыкантаў (Васіль Раінчык, Міхаіл Фінберг), прадпрымальнікаў (Алег Марозаў, Пётр Марцаў) да палітычных дзеячаў (Людміла Гразнова, Дзмітрый Булахаў). Героем праграмы быў святар айцец Ігар Карастылёў і кіраўнік беларускага тэлебачання Рыгор Кісель. Былі зняты праграмы са Станіславам Багданкевічам, дыктарам Іллёй Курганам, актрысай Вольгай Клебановіч, сям'ёю Пінігіных.***

***Некаторыя з гэтых перадач, напэўна, так і застануцца ў студыйным архіве...***

***З'яўленне "Галерэі" дае падставу для шматлікіх роздумаў. Напрыклад, пра тое, што менавіта на нашым БТ толькі сёння з'явілася адкрыта заяўленая аўтарская праграма. Да гэтага не вельмі перыядычна выходзіў "музычны салон Элеаноры Езерскай"...***

***На працягу месяца мы мелі магчымасць бачыць на экране прадстаўнікоў нашай інтэлігенцыі. Розныя людзі ў жыцці, яны прадстаўляюць інтэлект адзінай нацыі, тых, хто сёння імкнецца заставацца прафесіяналамі...***

***Хоць стваральнікі праграмы пайшлі па даволі складаным шляху, яны не былі ўсё ж першаадкрывальнікамі жанру. На нашай памяці жыве праграма, якую рыхтаваў калісьці Урмас Отт, сёння на расійскім тэлебачанні працуе амаль з аналагічнай праграмай Андрэй Караулаў, былі таксама "людзі тыдня" Алёны Саркісян на "Астанкіна". Але падаецца, што "Галерэя" паспрабавала пабудаваць унутры вядомага жанра сваю арыгінальную перадачу.***

***У эпоху "кліпавага мыслення" даволі цяжка прымусіць чалавека сесці і проста слухаць размову... Асоба чалавека, які вядзе размову ў праграме такога кшталту, заўсёды набывае асаблівы сэнс. І ў гэтых адносінах паводзіны Таццяны падаліся мне дзіўнымі, і моманты, калі вядучая добраахвотна адыходзіла ў "цемру" або распытвала сваіх субяседнікаў даволі "простымі" або іншы раз прымітыўнымі пытаннямі, выклікалі здзіўленне.***

***Я яе ведаю асабіста. І яе прафесіяналізм, і інтэлектуальны ўзровень.***

— Так, мне Марцаў пасля таго як паглядзелі матэрыял, прапанаваў гэтак даволі далікатна: "Можа, перапішам вось гэты кавалак, мабыць, вы хваляваліся ў той час..." Я яго "супакоіла". Нічога, з мяне карона не зваліцца. Затое ўсе ўбачаць, які вы разумны..."

**— Атрымоўваецца сітуацыя з Урмасам Оттам наадварот...**

— Пра тое, што нас будуць параўноўваць... Урэшце, я ўжо прайшла гэты перыяд, калі працавала ў "Кроку". Нас называлі збляднелай копіяй "Взгляда". А потым, калі "Кроку" не стала, пачалі ўспамінаць яго "залаты век". Аказваецца, гэта была арыгінальная праграма са сваім асабістым тварам...

Усё было, усё мінула... Але тое, што можна было ўсё ж такі пайсці і паспрабаваць адстаяць сябе, і гэта атрымоўвалася... Вось сёння гэта падаецца немагчымым.

**— Па якім прынцыпе ты выбіраеш сваіх суразмоўцаў?**





— Па знаёмству (*смяецца*). Не, праўда. Спачатку гэта былі людзі, якія не тое што былі сябрамі, але я іх ведала. І ў некаторым сэнсе яны мае.... ну, не аднадумцы, а, як кажуць, з "адной групай крыві".

**— Мне падалася цікавай твая праграма з Людмілай Гразновай.**

— Ну-ну. І мне таксама цікава. Мае мужчыны (*маецца на ўвазе кіраўніцтва ФІТа*) аднесліся да гэтай перадачы даволі скептычна.

**— Мне было цікава бачыць праграму з драматургіяй, якая складвалася на вачах у гледача. І мне было цікава назіраць за жанчынамі падобнага лёсу. Асабіста ты была для мяне той самай дзяўчынай з "элітарных партыйных" колаў. І твае паводзіны, асабліва ў апошнія гады, не ўкладваюцца ў гэту схему. Памятаю дзяўчыну, якая са студэнцкай сцэны чытала нейкія патрыятычныя вершы...**

— Я іх чытала ў школе.

**— І курс ваш быў, на мой погляд, самы ідэалагізаваны. Камсамольскі сход... Але, прабач, твае прафесійныя і, яшчэ раз прабач, грамадзянскія паводзіны — яны неяк не суадносяцца з дзяўчынай з плаката...**

— Усё суадносіцца. Так, з Гразновай мы былі знаёмы па першым цягніку маладзёжнай міжнароднай салідарнасці. І, магчыма фармальна, я і была падобна да дзяўчыны з эліты. Школа прэстыжная, у якой займаліся дзеці розных чыноў...

Яшчэ адкрыю адну "страшэнную тайну". На помніку маёй бабулі напісана: "Палымяная бальшавічка Таццяна Валянцінаўна Ягорава". Я ўжо казала мужу: "Памру — не патрэбны затраты. Толькі дапісаць: "І Маратаўна таксама. Палымяная бальшавічка."

Што датычыцца "элітнага" дзяцінства, дык я доўгі час была звычайнай капітанскай дачкой. Дзяцінства прайшло ў "мачулянскай", як мы яе называлі, сярэдняй школе. Маці вучылася ў Мінскім музычным вучылішчы, я была з бацькам — ваенным журналістам. Мяне забрала маці да сябе, калі я ледзь не загінула з-за няні...

Адно з успамінаў дзяцінства — ранкам прачынаюся, хочацца піць і каб не будзіць маці, саскрабаю іней са сцяны... Я не імкнуся выклікаць да сябе спачуванне... Проста, калі мой бацька стаў "наменклатурным" — займаў пасаду ў Фондзе міру, я ўжо была замужам, ужо свая дачка была... На маю свядомасць "элітнасць" не ўплывала. Я была "чужой" сярод сваіх аднакашнікаў...

**— Але гэтыя шпількі і сёння далятаюць.**

— Хай ляцяць. Раней перажывала. Калі перайшла працаваць у "Беларускую маладзёжную", патрабавала ад бацькі, які ў той час з імі супрацоўнічаў, каб шукаў іншую рэдакцыю...

Абвостранае пачуццё залежнасці ад грамадскага мыслення — вось гэта сапраўды ад бацькоў... І маё асабістае жыццё ад гэтага не было горшым. І я сапраўды верыла. У нашу ідэалогію, я з ёю не змагалася.

**— А якая рыса для цябе галоўная ў тваіх героях?**

— Пачуццё ўласнай годнасці. Годнасць.

**— Здаецца, што ў перакладзе з грэчаскай так тлумачыцца імя "Таццяна".**

— Так. І мабыць таму ў нашым родзе амаль усе жанчыны носяць гэта імя. Але справа ў іншым. Проста мне падаецца, што калі чалавек жыве з пачуццём уласнай годнасці, ён і будзе імкнуцца да таго, каб і краіна, у якой ён жыве, была паважанай... Як прыкра іншы раз чуць за мяжой: "Ну чаму ў вас усё так? Вы ж людзі па-еўрапейску адукаваныя, разумныя..." Цыкл "Галерэя" — наша спроба паказаць дастойных людзей.

**— Табе для гэтага дастаткова эфірнага часу?**

— Ведаеш, паўгадзіны для праграмы такога кшталту — гэта ў прынцыпе ідэальна. Але для сябе асабіста я востра адчуваю недахоп эфірнага часу. Па-першае, шмат чаго цікавага застаецца па-за кадрам. І не заўсёды ўдаецца ў гатовай зманціраванай праграме данесці гэты працэс нараджэння думкі, драматургіі, калі чалавек ад аднаго можа перайсці самастойна да сцвярджэння супрацьлеглай думкі. І ў гэтым характар крыецца. У праграме з Марцавым так было напрыканцы перадачы. Ён, такі спакойны, даволі ўзрушана сказаў: "Ты не мяне, ты сябе пашкадуй. Дзяцей нашых пашкадуй. Дзяржаву". А потым амаль адразу перайшоў да думкі, што не трэба шкадаваць так моцна адзін аднаго. Ад вялікай жальбы сядзім у балоце..."

**— Ты як да гэтага пачуцця ставішся?**

— Ведаеш, яно для мяне разам з годнасцю. Напэўна, гэта не зусім правільна. Але я шкадую ўсіх. І герояў маіх таксама. Таго ж Марцава. І Фінберга бліскучага, які нейкі час перажываў, што яго на прэзентацыі не запрашаюць... Мае героі ўсе па-чалавечы ўражлівыя...

**— Ты заўсёды націскаеш на эмацыянальныя струны?**

— Пытанне. Пасля некаторых праграм мяне ў ФІТ назвалі "мясніком" Асабліва ў час прагляду перадачы з Вольгай Клебановіч. А там такая гісторыя атрымалася. Нас пасадзілі ля каміна. Асяроддзе гэткае тэатральнае. І дзве дамы так вытанчана размаўляюць. "Ах, адкажыце мне, калі ласка, ах, як гэта было цудоўна... і г.д." Час ідзе, і я адчуваю, што гэта зусім іншы жанр нейкі. А я не творчы партрэт здымаю. Ну я і запыталася ў Вольгі пра тое, што рыхтавала на канец перадачы. Прыйшлося прыбегнуць да накаўта. Я ведала, што ў Вольгі і Аляксандра Дзянісава дачка была цяжка хворая на рэдкае захворванне крыві. І яны адправілі яе ў Амерыку. Гэта была адысея, у якой не было добрых дзядзькоў спонсараў. Дзянісаў паехаў з дачкой, уладкаваў яе ў шпіталь. Сам працаваў на цяжкіх работах чорнарабочым, шафёрам. Зараз яму пашанцавала: ён працуе на "хуткай дапамозе", грошы зарабляе. Дачку выратавалі. І гэта галоўнае. Наогул, дасць Бог, я здыму пра гэта асобную перадачу. Гэта гісторыя, перад якой усе лацінаамерыканскія пачуцці... нішто. Дык вось я спытала Вольгу: "А як вы маглі заставацца тут, 5 гадоў ужо, калі хворае дзіця так далёка..." Яна паспрабавала растлумачыць, што так было вырашана на іх сямейным савеце. Дзянісаў — больш моцны і фізічна і душэўна..." Я пагаджаюся і далей распытваю: "Так, усё праўда. Але ці каштуе мастацтва тэатра такіх ахвяр?..." Быў момант, калі слёзы з'явіліся. Але гэта не былі слёзы акцёрскія. Яны не праліліся... Гэта быў характар вельмі незвычайнай жанчыны, актрысы. Ведаеш, што яна мне адказала пра ахвяру тэатру? "Як ты не разумееш?! Гэта мне тэатр патрэбны, а не я яму..."

**— Колькі часу пражыве твая праграма? І фізічна для цябе гэта вялікае выпрабаванне...**

— Ну, я ўжо звыклася. Не ведаю. Не ведаю...

**Галіна ШУР**

**P.S.** Некалькі гадоў таму вядомая журналістка Таццяна Ягорава пасля шэрагу высокапрафесійных праграм, славутага тэлемарафону, на ўзлёце кар'еры пакінула тэлебачанне. Пайшла з думкай ніколі не вяртацца ў прафесію. Але цераз кароткі тэрмін ужо працавала на "Радыё Бі-Эй", вакол яе арганізоўваўся своеасаблівы гурток маладых радыёжурналістаў, яны і сёння ёй удзячны за прафесійную дапамогу. Таццяна пакінула "Бі-Эй", адмовілася ад прапаноў заняць даволі прэстыжныя пасады у Тэлекамітэце і кожны тыдзень выходзіць са сваёй асобнай праграмай. Працуе на незалежнай тэлекампаніі ФІТ, дзе паважаюць яе прафесіяналізм. У Ягоравай сфармавалася кола калег, з якімі яна працуе: рэжысёр Наталля Арцімовіч, аператар Дзмітрый Сушкевіч, рэдактар Наталля Кісялёва.

І сапраўды шкада, што столькі цікавага засталося па-за кадрам нашай размовы...

**Г.Ш.**

*На фота: Таццяна Ягорава "раскручвае" Вольгу Клебановіч; Таццяна Ягорава рыхтуе "Галерэю" з Іванам Пінігіным.*

## УРАЖАННІ

# "ЗДАЕЦЦА, ГЭТЫ ГОРАД ІСНАВАЎ ЗАЎСЁДЫ..."







"Міша, заходзь да нас сёння!" — крычыць адзін салдат другому. Форма колеру алівак, амерыканская стрэльба М-16, акуляры "а ля Рэмба". А побач — камяні храма Саламона, якім ужо трыццаць стагоддзяў, а навокал Іерусалім, Ерусалім, *залаты Ершалаім. Так і запомніцца, так і застанецца ў памяці* — Святая зямля, зямля прарокаў, скрайнія камяні сусветнай гісторыі і юначы голас ізраільскага салдата на чыстай рускай: "Миша, заходи..."

Палюсы зямнога шара, Эверэст і Марыянская ўпадзіна, і, нарэшце, духоўны полюс і вяршыня свету — Іерусалім. Чаму ж выбрана менавіта гэтае месца: часам, гісторыяй, Богам? Таму, што тут жылі прарокі, якія ўпершыню пачалі пісаць кнігі, што данеслі да нас скрыжалі Майсея, запаветы Ісуса і словы Магамета. Але чаму ўсе яны, такія розныя, сустрэліся тут, у гэтай кропцы зямлі? Сувязь з космасам ці асаблівасць геаграфіі, ландшафту? Можна даць веры і першаму, і другому, і трэцяму. Нітка сувязі, вяроўка, што звязвае Вялікі Захад і Вялікі Усход. Міжземнамор'е — калыска шмат якіх цывілізацый. Непаўторны пейзаж зямлі, што ляжыць паміж морам, гарамі і пустэльнямі... Камень выкшталцонай прыгажосці ўзгоркаў, але камень, яшчэ здольны прыносіць плады, даваць жыццё — тут зямля дае і вінаград, і алівы, і фінікі, і корм для свойскай жывёлы.

Але і яшчэ нешта невытлумачальнае. І хрысціянства, і іудзейства, і іслам кажуць: тут, адсюль пачалося, тут Бог дакрануўся да чалавечай рукі. Таму — кнігі, храмы, памяць, культура.

Але, на жаль, і вайна. Вечная вайна, якая доўжыцца ўжо тры тысячы гадоў. Шабля Саладзіна і меч крыжака, кап'ё рымляніна і стрэльба ангельскага салдата, дынаміт палесцінца і М-16 — амерыканскае цуда, што страляе тонкімі, як сярэдзіна алоўка, кулямі. Мінаюць стагоддзі, а жалеза ўсё працягвае нішчыць чалавечыя целы. Міша, салдат ізраільскай арміі, што стаіць ля Сцяны Плачу, вясёлы, але вочы ягоныя напружаны — што? Нож, куля ці дынаміт? Падыходы да Сцяны ахоўваюцца, і салдаты працуюць з мінашукальнікамі.

Так, тут цяпер Ізраіль, як калісьці, трыццаць стагоддзяў таму. І салдаты робяць усё тую ж самую працу — змагаюцца з палесцінцамі (філістымлянамі). Дык розныя ў іх Багі ці адзіны? Магчыма, кожны разумее яго па-свойму, а Ён казаў усім адно і тое ж: жывіце ў міры!

Амаль 50 гадоў тут Ізраіль, і няўзброеным вокам бачна, як еўрапеізавалася, як змянілася гэтая зямля. Аўтобус ідзе з Хайфы дзве гадзіны, і мы едзем па зямлі сапраўды зමененай. Можна казаць аб "агрэсіі", "эксплуатацыі" і г.д., але нічым немагчыма прыхаваць адно — велізарную працу, высілкі людзей, што будуюць дамы і дарогі, вырошчваюць апельсіны і бананы, ствараюць цеплыню і святло. Так, мабыць, Ізраіль капіталістычная краіна. Але ў вялікай ступені і сацыялістычная, нават савецкая. Перадусім гэта адчуваецца ў дзвюх з'явах: ролі дзяржавы і калектывізме. Дзяржава і адзіная рэлігійная ідэалогія прасякае жыццё чалавека: яны сочаць за ім, дапамагаюць, падказваюць. Дзяржава збірае вялізныя падаткі (вось яшчэ адзін сацыялістычны прынцып), каб дапамагчы чалавеку ўладкавацца, каб забяспечваць яго вадою і святлом, каб ахоўваць яго.

Але гэта адначасова і калектывісцкае грамадства. Сіяністкая ідэя, як вядома, у вялікай ступені сілкавалася сацыялістычнымі ідэямі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Узгадаем, прынамсі, наш мінскі I з'езд — РСДРП і Бунд. А калі на Святой зямлі бачыш кібуцы — камуны, вёскі, мікраараёны, асабліва востра адчуваеш блізкасць гістарычных лёсаў.

У чым жа адрознасць? Ну, мабыць, у неабходнасці штодзень выжываць, чаго не было пры нашым развітым сацыялізме. Цудоўны наш гід Рыта Любарская, чые бацькі прыехалі *з Ленінграда, шчыра працавала разам з намі ў 40-градусную* спякоту. Што ж тут дзіўнага? Ды тое, што ў яе "становішчы" яна ў ленінградскіх умовах ужо сядзела б у "дэкрэце", таўсцела, лежачы на канапе і гаманіла з сяброўкай па тэлефоне. Тут яна круціцца.

Яўрэйская практычнасць, аднак, іншы раз пераходзіць усе межы — парады гіда наведаць ювелірную лаўку яшчэ да святых месцаў, "каб у вас былі крыжыкі перад асвячэннем", былі трошкі навязлівыя. Аднак тут таксама патрыятызм і жаданне дапамагчы сваёй краіне — ювелірная прамысловасць складае вялікую частку экспарту Ізраіля. Яўрэі заўсёды былі добрымі майстрамі-ювелірамі, а тут яны папросту вырашылі "скарыць свет" здольнасцямі сваіх апрацоўшчыкаў дыяментаў.

Аднак і арабы — майстры ўжытковага мастацтва. Крамкі Іерусаліма падобныя да скарбніцаў Аладзіна. "Снікерс" і "Кодак" мільгацяць, безумоўна, і тут, але надзвычай прыгожыя дываны, ювелірныя ўпрыгожанні і чаканка вабяць да сябе. Вулачкі нерэальна вузенькія, і нават у ярка-блакітны іерусалімскі дзень у глыбіні крамаў ззяе цудоўнае святло і змрочныя скляпенні, падавалася, зноў вяртаюць нас у часы халіфаў, гарэмаў і мамелюкаў.

Ізраільцяне *падкрэслена паважна ставяцца да* хрысціянскіх святыняў. І ў Царкве Раства ў Віфлееме, і ў Царкве Труны Гасподняй чысціня і парадак. Безумоўна, парадак каля іудзейскіх цэнтраў. Жаданне "зрабіць агульнымі" сваіх куміраў у яўрэяў настолькі моцнае, што ля Сцяны Плачу нават прапаноўваецца ўсім жадаючым падысці да камянёў і прыклеіць паперку з патаемнымі жаданнямі. Рускамоўныя хадакі, трэба адзначыць, горача адгукаюцца на заклік з іудзейскага боку — а раптам спраўдзіцца? Праблемы, канешне, узнікаюць і ў ісламскіх святыняў — тут раўніва ставяцца да "няверных".

Адметная і талерантнасць іерусалімскіх хрысціянскіх цэркваў: праваслаўнай, каталіцкай, армяна-апостальскай. І дагэтуль працягваюцца схаластычныя спрэчкі: ці тыя камяні зараз накрывае тоўстае шкло ў Храме Труны Гасподняй? Ці дакладна тут была Галгофа — Лысы Чэрап — месца іерусалімскіх пакаранняў? Ці быў археалагічна дакладны візантыйскі імператар Канстанцін, які паставіў тут першы рукатворны храм?

Але факт застаецца фактам. Менавіта тут, над каменнямі Галгофы, падзеленыя скульптурай Маці Боскай, што вечна смуткуе, знаходзяцца праваслаўная і каталіцкая капліцы, а зусім побач ля магільнага каменю палае агонь армянскай царквы. Але менавіта тут, на гэтых святых камянях, збітых падэшвамі мільёнаў ног, разумееш "зямную" ўмоўнасць падзелу на цэрквы. Менавіта тут разумееш, што падзяляе людзей: мовы, звычаі, колер твару, і што аб'ядноўвае — агонь Веры. І далей, пакінуўшы храм, бачыш, што Сцяна Плачу трымае двор мячэці, той самы двор, які халіф Амар вызначыў як месца ўзнясення прарока Магамета. Як старажытны ўсходні ланцуг перапляліся рэлігіі — срэбра з золатам, дробныя і буйныя звёны — усё шчыльна, усё непарыўна.

Тры тысячы гадоў таму, як піша Флавій, цар Давід "пабудаваў горад Іерусалім, які назваў градам Давідавым, пасяліўся ў ім і правёў там увесь астатні час свайго царавання". Але і Давід, згодна з Флавіем, "прыйшоў" да Іерусаліма, які ўжо быў населены жыхарамі ханаанейскага роду. І ці не пра гэты горад пісалі фараону Эхнатону яшчэ ў XIV стагоддзі да нараджэння Хрыстова? Гэты горад такі старажытны, што, здаецца, ён існаваў заўсёды.

Залаты Ершалаім, пра які распавядаецца ў яўрэйскай песні. Але ён зусім не залаты, а вытанчана белы, складзены з мясцовага вапняку — трывала і надзейна. Гэты камень цудоўным чынам "працуе" на галоўную ідэю горада — несці святло. Удзень белы камень не слепіць, але гарыць роўным мяккім святлом, а ў прыцемку гэтае святло працягвае мігцець, быццам камень увабраў святло ў сябе і аддае яго людзям і наваколлю.

Прырода надзяліла горад і асаблівымі ўзгоркамі — гэта не вострыя скалы, але і не мяккія выспы, а штосьці сярэдняе. З кожным крокам, з кожным паваротам горад адкрывае новыя перспектывы, але нешта ўсё ж застаецца схаваным і ніколі нельга сказаць, што ён увесь "ляжыць як на далоні". Надзвычай прыгожы шлях ад мора да Іерусаліма — Віа Марыс — шлях старажытных рымлян і паломнікаў у наступныя хрысціянскія гады. Адметная і яго горная частка са схіламі, што параслі дрэвамі. Ізраільцяне пасадзілі тут 6 мільёнаў дрэваў, як кажуць, на памяць аб ахвярах фашысцкага генацыду. Натхнёнай і карпатлівай працай узгадаваныя дрэвы ажывілі камяністыя горы, але сёлетні пажар знішчыў іх большую частку, быццам нагадваючы пра праклящці і пакуты яўрэйства і дарэмнасць чалавечых намаганняў змяніць свет. Што гэта было — выпадковая знічка ці тэрарыстычная акцыя — ужо не мае значэння. Мёртвыя стваліны цяпер, мабыць, яшчэ мацней нагадваюць пра ахвяры народа.

Мы не бачылі ні дыму, ні полымя, не чулі стрэлаў ці выбухаў. Вакол была добраўпарадкаваная, утульная зямля, хаця і спякотная, але зусім кандыцыянаваная. Але нешта ўсё ж прымушала зноў і зноў задумвацца пра гэтыя бясконцыя ахвяры, пра заўсёдную вайну. Хлопцы і дзяўчаты з аўтаматамі — мабыць, гэта адзіная краіна ў свеце, дзе салдат можа спаць дома, прыхапіўшы з сабой зброю. Дзе тая мяжа, дзе тая граніца, якую трэба ўсталяваць, каб людзі не ішлі забіваць адзін аднаго? Можа, прычына ўсё ж цалкам марксісцкая — справа не ў нацыях, а ў жабрацтве адных і багацці другіх. Міжволі дасі веры, калі менавіта арабскі хлапчук просіць міласціну на вуліцы, а іншы спрабуе нешта сцягнуць. А нашы мінскія жабракі і мінскія "мерседэсы"? Ці не яны ёсць прычынай будучых войнаў і рэвалюцый? Нешта будзе?!

"Міша, я зайду", — хочацца крыкнуць у адказ салдату. Я зайду, і мы пасядзім, і пагутарым, і знойдзем сродак, каб усім было добра — і яўрэям, і арабам, і беларусам.

**Армэн САРДАРАЎ, архітэктар**

*На здымках: святыня мусульман — мячэць Эль-Акса; уваход у храм Гроба Гасподня — хрысціянскую святыню; святыня гэбраяў — Сцяна Плачу; ізраільскія салдаты ў Віфлееме.*

**Фота аўтара.**

Іерусалім — Мінск. Жнівень, 1995





КАМЕРТОН

## Алесь БАДАК:
# "ПЕСНЯ — ІСТОТА РАМАНТЫЧНАЯ"

***Алесь Бадак — з кагорты беларускіх паэтаў маладзейшага пакалення. Хаця вядомасць у аўтара цікавых, арыгінальных вершаў даволі шырокая. Сярод іншых прычын на тое — песенныя клопаты Алеся Бадака. Так, менавіта ён з'яўляецца аўтарам тэкстаў многіх папулярных песняў, што гучаць на беларускай эстрадзе ў выкананні Аляксандра Саладухі, Іны Афанасьевай, Юлі Скарахот, іншых спевакоў. Пра песеннае мастацтва і пойдзе размова нашага карэспандэнта з паэтам Алесем Бадаком.***

**— Алесь, у кожнага з паэтаў свой шлях да песеннай творчасці. Які быў твой асабісты пачатак?**

— Ведаеш, стаць паэтам-песеннікам мне ў нечым дапамог выпадак. Мяне асабіста да гэтага занятку падштурхнула жанчына, якая ў прынцыпе ніякіх адносін да песні не мае. Калі прыйшоў на працу ў Саюз пісьменнікаў, пазнаёміўся з Валянцінай Адамаўнай Юбко. У першай маёй кніжцы — "Будзень" — яна звярнула ўвагу на шэраг вершаў, якія, на яе думку, маглі б стаць песнямі, і паказала іх сваім знаёмым кампазітарам.

Але ж у гэтай выпадковасці ёсць свая заканамернасць. Мне здаецца, што стварыць адну-дзвētры песні — не праблема для любога творцы. Займацца гэтай працай рэгулярна — зусім іншае. Калі азіраюся назад, то ўвогуле часам здаецца, што я як быццам рыхтаваўся пісаць песенныя тэксты ўсё сваё ранейшае жыццё. Ва ўсялякім разе захапленне эстраднай музыкай у мяне заўсёды было вельмі моцнае. Яшчэ ў маленстве ведаў ледзь не ўвесь рэпертуар Лешчанкі, Ратару, Пугачовай. І бацькі мае вельмі любяць песні.

**— І ўсё ж не кожнаму паэту дадзена стаць песеннікам...**

— Важна зразумець, што песенны тэкст і проста верш не заўсёды адно і тое ж. Напрыклад, Андрэй Вазнясенскі напісаў славутыя "Мільён ружаў", "Танец на барабане", якія як проста вершы — амаль ніякія. Але гэта ніколькі не замінала ім стаць амаль народнымі песнямі. Як і не замінала Андрэю Вазнясенскаму застацца цудоўным паэтам. І разам з тым Леанід Дзербянёў... Я не ведаю ніводнай яго вершаванай кніжкі, а вось неблагіх песень Дзербянёў напісаў процьму. Не кожны паэт, які можа пісаць суперпаэтычныя вершы, можа напісаць песню. Творца, які працуе для эстрады, павінен адчуваць не толькі рытм, рыфму. Паэт павінен адчуваць мелодыю радка. Калі гэтай мелодыі не адчуваеш — з верша песню зрабіць вельмі цяжка. Я толькі хачу падкрэсліць, што калі я гавару пра сучасную песню, то не маю на ўвазе баладу, раманс, аўтарскую песню. Я маю на ўвазе звычайную эстраду, якая кожны дзень гучыць па радыё і тэлебачанні, той жанр, у якім я працую.

Сама па сабе песня — жанр-каракулька. Максімум чатыры страфы... І таму ўсім траім — паэту, кампазітару, выканаўцу — трэба працаваць вельмі шмат, каб з гэтых некалькіх строф стварыць цэлы спектакль.

**— А ці не падаецца табе, што песенная эстрада ў некаторай ступені больш абмежаваная, чым які жанр высокага мастацтва?**

— Відаць, няма такіх тэм, якія нельга было б развіваць, вырашаць у песенным жанры. Але рабіць гэта трэба некалькі інакш, чым у чыстай паэзіі. Прызнацца, я і сам не магу разабрацца ў механізме. І мною хутчэй кіруе інтуіцыя.

Магчыма, таму і сучасныя кампазітары даволі рэдка звяртаюцца да творчасці нашых класікаў, а калі і пішуць, то зноў жа — рамансы, балады і г.д. А ці чулі вы хаця б адзін купалаўскі ці коласаўскі шлягер?..

**— Ці пішаш ты словы песні з разлікам, што мелодыю тваёй душы ў рэальную музыку будзе пераўтвараць нейкі канкрэтны кампазітар? Ці песля прапанаваеш напісанае некалькім кампазітарам?**

— У прынцыпе, так. Як правіла, калі пачынаеш працаваць над тэкстам, калі ёсць адна толькі задума, ужо прыкладна ведаеш, што аддасі песню, напрыклад, Елісеенкаву ці Захлеўнаму, ці каму іншаму...

**— І як усё ж такі нараджаецца песня?**

— Песня нараджаецца з паветра. З нічога. Песня — істота рамантычная. Прыклад — "Заварожаная фея". Спачатку ў галаве закруцілася-замружылася адно слова: "Фея". Тады: "Заварожаная..." Пакуль былі толькі два словы, фактычна назва, ужо думаў, для каго гэта будзе... Хто напіша музыку? Хто стане выканаўцам?..

Увогуле з кожным беларускім кампазітарам у мяне атаясамліваецца пэўнае адценне песеннай творчасці. Алег Елісеенкаў — чалавек, які піша шлягерную, маладзёжную музыку. Творы Леаніда Захлеўнага вельмі меладычныя, песні для роздуму. Васіль Раінчык стварае песні-спектаклі. У Валерыя Іванова — музыка-філасофія.

**— Алесь, відаць, калі мяркаваць па тваім "праектаванні" песні як завершанай рэчы, то думаеш ты пра канкрэтнага выканаўцу?..**

— Безумоўна. Яшчэ толькі пішу тэкст, зводжу словы з мелодыяй і ўжо мяркую, з разлікам на каго гэтая праца — для Іны Афанасьевай ці для Якава Навуменкі, ці для каго іншага.

**— І хто ў большай ступені цябе прыцягвае з выканаўцаў?**

— Мне вельмі падабаюцца Саша Саладуха, Іна Афанасьева. І не толькі таму, што з імі лёгка працаваць. І Саша, і Іна ўмеюць рабіць песню. Як быццам трапляе ў рукі да іх нягеглая, непрывабная цукерка. А спявак і ў абгортку яе ўкладзе, і разрэкламуе... Словам, сур'ёзна працягваюць працаваць над песняй, а не проста даносяць яе да слухача.

І ўвогуле ў кожным выканаўцу я бачу для сябе пэўны вобраз. Нехта з іх для мяне — беларускі Дон Жуан, нехта — беларуская Папялушка, нехта — загадкавая фея... Для мяне вельмі важны вобраз...

**— І хто, акрамя, напэўна, Сашы Саладухі, хаваецца за гэтымі яркімі вобразамі-вызначэннямі?**

— Нікім я не назваў і Сашу Саладуху. Хаця для яго ў прынцыпе адзін толькі вобраз і падыходзіць. Думаю, што з Саладухам якраз усё і ясна. Што ж да астатніх — фей, папялушак, сірэн, якія прыцягваюць да сябе хлопцаў, дык нікога ні з якай "пасадай" не атаясамляючы, я ўсё ж назаву мяркуемыя вобразы-ідэалы агулам — Ліка, Юля Скарахот, Іна Афанасьева...

**— Алесь, адчуўшы, што песня забрала цябе ў сапраўдны палон, хацеў бы запытацца, а як жа ў цябе складваюцца справы з асноўнай прафесіяй? Ці пішаш ты вершы не для слухача, а для чытача?**

— Праца для песень уплывае на заняткі паэзіяй. І не вельмі станоўча... Адымае час. Але ж ёсць тут і станоўчыя бакі. Напішаш падборку вершаў — і чакай, пакуль іх праз паўгода-год надрукуе які-небудзь часопіс, пакуль праз некалькі гадоў выйдзе кніга. Праз песню шлях да слухача вельмі кароткі. Можа яна і праз нейкі тыдзень гучаць па радыё. Шматмільённая аўдыторыя! Хіба гэта параўнаеш з тыражом часопіса альбо кнігі...

Хаця ў некаторай ступені ўсё гэта і самападман. Песня нагадвае поспех кароткачасовы. Чыстая паэзія жыве шмат даўжэй. У сярэдняй песні век нядоўгі. Мо з год... Толькі добрая песня жыве дзесяць-дваццаць гадоў.

Зараз я ўжо крышку перахварэў. Стараюся аддаваць увагу і таму, і другому, і трэцяму... І як некаторы вынік: сёлета ўжо выйшлі дзве мае кніжкі: адна дзіцячая і адна дарослая. Магчыма, хутка выйдзе і трэцяя. Дарэчы, дзіцячыя вершы мне блізкія сваім рамантызмам, фантазіяй, дабрынёй. У іх шмат агульнага з маімі песнямі, таму і пішу шмат для дзяцей.

**— І апошняе, пра што хацеў бы запытацца... Колькі каштуе песня?**

— Не ведаю... Для беларускай эстрады (для аўтараў у прыватнасці) нічога не каштуе, у матэрыяльным плане, зразумела.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



Прыхільнікі таленту вядучага саліста Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь Аляксея ІСАЕВА сустрэліся з улюбёным выканаўцам на аўтарскім канцэрце артыста "Вера, надзея, каханне". Ён з поспехам адбыўся ў канцэртнай зале "Мінск". Першае аддзяленне праграмы зачаравала слухачоў. У ім Ісаеў праспяваў старадаўнія рамансы ў суправаджэнні інструментальнага ансамбля пад кіраўніцтвам Уладзіміра Цатурава. Кожны раманс артыст сканчваў пад шквал апладысментаў.

У другім аддзяленні прагучалі эстрадныя песні сучасных аўтараў, якія былі шлягерамі ў 60 — 70-х гадах. У канцэрце ўзялі ўдзел беларускія кампазітары Эдуард Зарыцкі і Эдуард Ханок, заслужаны артыст Беларусі, дыктар Беларускага радыё Мікалай Чырык, паэт, лаўрэат прэміі Саюза журналістаў Рыгор Сакалоўскі і ўзорна-паказальны аркестр унутраных войскаў МУС Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора палкоўніка Мікалая Жарко.

*На здымку: Аляксей Ісаеў спявае для сваіх прыхільнікаў.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ**

# КАЛІ ПЯЮЦЬ САЛДАТЫ...

***Творчыя сустрэчы з артыстамі ансамбля песні і пляскі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь выклікаюць заўсёды вялікую цікавасць як у жыхароў нашай краіны, так і замежных гасцей. Асабліва ў наш час раздраення ўсё той жа Савецкай Арміі...***

***Нядаўна ансамбль наведаў шэраг гарадоў Гомельскай вобласці. І ўсюды яму апладзіравалі ўдзячныя гледачы. Падчас адной з гэтых сустрэч і нарадзілася інтэрв'ю, якое даў намеснік мастацкага кіраўніка ансамбля, намеснік начальніка ансамбля У.І. Кудзелка.***

**— Уладзімір Іванавіч, рады бачыць артыстаў вашага ансамбля ў сябе на жлобінскай зямлі. Калі ласка, як бы Вы прадставілі гледачу свой вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі калектыў?**

— Перш за ўсё хачу адзначыць, што наш ансамбль існуе ўжо 57 гадоў. Гэта адзін са старэйшых калектываў рэспублікі, які за гады існавання быў на перадавым флангу ў барацьбе за развіццё нашай роднай культуры, ніколі не абмінаў самыя гарачыя кропкі ў краіне. Ансамбль з гонарам прайшоў франтавымі дарогамі, дзе дапамагаў сваім мастацтвам каваць перамогу над ворагам. Савецкія салдаты памятаюць сустрэчы з нашымі артыстамі на далёкай зямлі Афганістана, куды мы выязджалі ў час вайны ў гэтай краіне не аднойчы. Давялося даваць канцэрты і побач ля Чарнобыля ў троххкіламетровай зоне.

Усё гэта слаўныя старонкі гісторыі нашага калектыву, якія і сёння імкнецца не быць у баку ад сучаснага жыцця. Наш ансамбль налічвае 98 артыстаў і мае ў сваім складзе чатыры падсаставы. Перш за ўсё мы па праву ганарымся адзіным у рэспубліцы мужчынскім хорам. Ёсць у нас таксама музыкальны аркестр, балетная група народнага танца і група арыгінальнага жанру. Акрамя гэтага, у калектыве прыжыліся і знайшлі сваё месца цыркавыя артысты: таленавіты парадыст Леанід Кашалёў і канферансье і фокуснік Яўген Шаранкоў. Толькі ў нас на канцэрце вы зможаце паслухаць і артыста арыгінальнейшага жанру — выканаўцу на гавайскай гітары Ігара Сінева.

Сярэдні ўзрост нашых удзельнікаў — 30 — 35 гадоў. Прыкладна палова артыстаў выйшлі з асяроддзя ваеннаслужачых. У нас сабраны самыя лепшыя прафесіяналы. У ансамблі працуе ажно пяць заслужаных артыстаў Рэспублікі Беларусь. Іншыя члены калектыву заняты працай ужо 15 — 20 гадоў. Цяпер, праўда, папаўнення новымі людзьмі фактычна няма.

**— Уладзімір Іванавіч, што, на Вашу думку, складае аснову вашага рэпертуару, яго, калі можна так сказаць, іскрынку?**

— Падкрэслю, што мы дасягаем поспехаў дзякуючы ў першую чаргу прыродным здольнасцям нашых энтузіястаў і напружанай іх працы над сабой.

Напрыклад, як я ўжо казаў, цёпла сустракаюць гледачы парадыста Леаніда Кашалёва — былога саліста ансамбля "Верасы". Заўсёды на канцэртах гледачы натхняюча выступленнем Івана Рудзэнкі. Дарэчы, немцы ў час канцэртаў у Германіі за яго цудоўны голас назвалі яго "беларускім салаў'ём". Вось такія нумары перш за ўсё імкнемся паказаць.

Акрамя таго, у нас распрацавана каля 15 пастановак танцаў. Поспехам карыстаецца турэцкая кадрыль, казачы перапляс, салдацкая плясавая з пастаноўцы заслужанага артыста рэспублікі Мікалая Сялко.

У рэпертуары хору захоўваем і акапельныя творы "Магутны Божа", "Аве Марыя", а таксама сучасныя эстрадныя песні беларускіх кампазітараў Ігара Лучанка, Эдуарда Ханка і малодшых.

Пастаянна ў нашым рэпертуары рускія народныя, беларускія народныя, старадаўнія песні. А многія аркестравыя кампазіцыі, аранжыроўкі зроблены заслужаным артыстам рэспублікі кіраўніком аркестра Вячаславам Сімагіным.

Глядач заўсёды з прыхільнасцю сустракае музычны нумар "Вочы чорныя" ў джазавым стылі, музычны каламбур, які выконвае духавая група, арыгінальную польку "Лабірынт".

Мастацкі кіраўнік нашага творчага калектыву і галоўны дырыжор Уладзімір Аляксеевіч Ермалаеў прыкладае шмат намаганняў, каб наша мастацтва заўсёды хвалявала і цікавіла гледача. Думаю, яму гэта ўдаецца.

**— Раскажыце, калі ласка, пра свае выступленні за мяжой. Мяркую, што яны ў вас асабліва памятныя.**

— Так, там мы заваёўваем сваёй працай новых сяброў. Сёлета, як і ў мінулым годзе, мелі паспяховыя гастролі ў Германіі. Мы выступалі перад жыхарамі нямецкіх гарадоў Гамбурга, Кіля, Брэмена, Ганновера. Летась калектыву давялося прымаць удзел у падрыхтоўцы тэлеперадачы разам з вядомай французскай спявачкай Мірэй Мацьё падчас нашых гастроляў у Францыі. Яна, у прыватнасці, выступіла з нашым хорам. Напярэдадні калектыў чакаюць гастролі ў Арабскіх Эміратах.

Прычым замежны глядач мае магчымасць паслухаць у выкананні ансамбля творы на шасці замежных мовах.

**— Што вы яшчэ разлічваеце змяніць у сваёй творчасці?**

— Зараз рыхтуем эстрадны блок з маладымі выканаўцамі, перш за ўсё групу эстраднага танца вар'етэ. За апошні час узнікла у нас і яшчэ адна праблема. Мы шукаем генеральнага спонсара і звяртаемся да калектываў, якія б маглі нам дапамагчы.

**— Дзякуй Вам за цікавую гутарку.**

**Інтэрв'ю ўзяла Зінаіда ЯНОВІЧ**

## НІШТО САБЕ!

# ШТО ГАВАРЫЦЬ АБ ДЫКТАТУРЫ? Я ПРЫЗНАЮ АДНУ — "КУЛЬТУРЫ"!

***200-ы нумар як быццам не падзея. Ці хутчэй не самая ўрачыстая падзея. І ўсё ж для нас, "культураўцаў", 200-ы нумар з'яўляецца пэўнай важкай вяхой у жыцці кожнага з нас і ў жыцці газеты найперш. І мы рады, што на наш, так бы мовіць, юбілей адгукнуліся па-рознаму і самыя розныя людзі.***

№200

***Леанід ШЧАМЯЛЁЎ, народны мастак Беларусі:***

— Кожны раз, калі адкрываю "Культуру" і знаходжу ў ёй чарговы адметны матэрыял, думаю: а чаму б мне не ўзяць пэндзаль і не намаляваць групавы партрэт супрацоўнікаў на фоне... Дакладней, у атачэнні ўсіх творчых муз, якія натхняюць на "подзвігі" рэдакцыю. Дык трымайцеся, журналісты, за пёры, каб яны ад судакрананняў з паперай выпраменьвалі толькі знічкі вялікай жыццёвай праўды.





***Генадзь АЎСЯННІКАЎ, народны артыст Беларусі, народны артыст СССР:***

— Віншую з 200-м нумарам! Але ж я асабіста хацеў бы дажыць да таго часу, калі ў выхадных дадзеных газеты да "двойкі" будзе дададзена яшчэ пяць нулёў. (Мы ў рэдакцыі заняліся арыфметыкай і атрымалі лічбу 200 000. Падзялілі на 50 і атрымалі... 4 тысячы гадоў! Нішто сабе...)



"Не ведаў, што дажыву да 200-га нумара "Культуры"...

(Ах, Макарэвіч! Вось Аўсяннікаў дык да 200 000 хоча дажыць. За тлумачэннямі — да віншавання славутага "купалаўца" Генадзя Аўсяннікава газеце "Культура".)

**Фота Сяргея БРУШКО**

***Валянцін ТАРАС, пісьменнік***

## ЭКСПРОМТЫ

***ДА ПЫТАННЯ АБ РЭФОРМАХ***

*Зноў мы прасунуліся трохі,*
*Рэформы ў нас пайшлі на лад:*
*Да мэты ўжо ўсяго тры крокі —*
*Адзін наперад, два назад!*

***ДА ПЫТАННЯ АБ СУМЛЕННІ***

*Сумленне памянялася дазвання:*
*Цяпер замест згрызотаў —*
*агрызанне!*

***ДА ПЫТАННЯ АБ БАНКАХ***

*Маленькіх банак — лішак.*
*Вы самі паглядзіце!*
*Дзе возьмеш столькі крышак?*
*Яны ж у дэфіцыце!*
*І раптам сёння ўранку*
*Прыйшла адна "мыслішка":*
*У вялізную бы банку*
*Ўсіх пасадзіць — і крышка!*

***ДА ПЫТАННЯ АБ УКЛАДАХ***

*Дзе вы, мае рублікі?*
*Зноў мяне надулі —*
*Дзюрачкі ад бублікаў*
*Змянілі на дулі!*

***ДА ПЫТАННЯ АБ ДЫКТАТУРЫ***

*Што гаварыць аб дыктатуры?*
*Я прызнаю адну —*
*"КУЛЬТУРЫ"!*



***Янка БРЫЛЬ, народны пісьменнік Беларусі:***

— Збіраўся пазваніць у "Культуру", падзякаваць за падпіску-падарунак на апошні квартал года, якую рэдакцыя зрабіла прынамсі і мне. Жывіце яшчэ не адну сотню нумароў!

**Сяброўскія шаржы Кастуся КУКСО**



***Літаратурны рух Бум-Бам-Літ:***

— З вялікай павагай і сыноўскай любоўю віншуем родную "Культуру" з 200-й нумарынай. І па нашай традыцыі дазваляем кожнаму супрацоўніку і падпісчыку гэтай мужнай газеты цюкнуць 200 разоў у тазік!

Во звону будзе... Нават глухія да праблемаў нашае культуры страпянуцца!

*Ня віскам камароў*
*Ляці наш звон*
*наўздагон —*
*да новых нумароў!*

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991 года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 4300
Замова 530?
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**